

Новости с Томковичем на экране

— Да нет, конечно! У нас вообще не работают журналисты, у которых есть опыт или такой стаж, как у вас. — Зато есть молодые, которые пришли сразу после школы, мы таких увлеченных ребят буквально приветствуем: они готовы работать поначалу на любых ролях — из них формировать потом можно универсалов —и под команду, и под программу. Мы очень ценим молодость и даже неопытность — в том плане, что закостенелый профессионал не очень гибко реагирует на потребности времени.

Тут выяснилось, что Даниэль Фернандес, который интервьюировал нас по бумажке, именно такой увлеченный, пришедший на студию буквально с улицы. Кто-то ему сказал, что вроде есть место, он пришел, с ним поговорили, он понравился и почти сразу сел в кадр! А к моменту нашего визита он пробыл на TELE TOP только 2 месяца!

— Неужели это не исключение, а правило — вот так подбирать кандидатов в репортеры?

— Скорее, правило. Если у нас появляется свободное место, — ответил Стефано, — мы даем объявление в газете или кто-то ищет через знакомых — так мы нашли Даниэля. Или вот еще как бывает: мы размещаем в городе большие плакаты, что каждый может претендовать на такое-то место и может попробовать поучаствовать в конкурсе. Приходят любители, и они гораздо чаще превращаются из увлеченных дилетантов в суперпрофессионалов.

***

Потом мы прогулялись по TELE TOP. Везде царил какой-то особый — камерно-корпоративный — дух, где работают весело и кропотливо, где гордятся студиями и своим ремеслом.

Когда мы уже уходили, мне показалось, что такой профессиональный азарт, такое доверие и радость от коллективной работы когда-то были и у нас. И возможно, все это вернется в редакционные коллективы.

Пока я об этом размышляла, Стефано Больманн попытался разобраться в наших проблемах:

— Как долго у вас все останется так как есть?

— Пока не изменится ситуация.

— Тогда и в профессии разница между нами будет расти и станет огромной: вы работаете под большим политическим влиянием, вы несвободны для творчества. У вас нет большого количества частных, самостоятельных маленьких редакций, которые могли бы работать на своей территории ради людей, живущих в этом регионе. Вы, бывает, обижены или злы на власти, потому что не можете делать то, что хотите, за достойные деньги. И потому что имеете политических оппонентов, которые пока несправедливо сильнее вас. А у нас ничего такого нет. Мелочи, кухня, детали профессии — они везде одинаковы. Но вот то, что дает внутренняя свобода и большой рынок СМИ — это команда и творчество. У нас очень хорошая команда, и мы так хорошо понимаем друг друга! Это преимущество небольших коллективов, работающих в небольших регионах небольших стран. И объяснение этому простое: когда люди объединены какой-то общей идеей, пусть даже с разницей в подходах, они закрывают глаза на мелкие, а то и на крупные разногласия, им важнее быть вместе. Но самое главное: у нас есть право на свободное, не ангажированное политическими взглядами мнение. А у вас его нет.

**Мы очень ценим молодость и даже неопытность — в том плане, что закостенелый профессионал не очень гибко реагирует на потребности времени.**

— Ну, почему? — пошутил Томкович. — Право и у нас есть. Но вот что будет потом? …Поэтому мы реализуем свое право с бо-о-ольшой самоцензурой.

— Чтобы иметь возможность работать дальше? — оживился Стефано. — О! Но это ведь тоже очень креативно?

Даниэль как-то грустно посмотрел на коллегу и его энтузиазма не поддержал.

Был, конечно, соблазн в конце нашего разговора, получив в подарок ручку и фирменную шляпу, да еще с высоты своего стажа (раз он вызывает в Швейцарии такое доверие) выдать что-то на тему «какие мы за столько-то лет стали креативные». Но с языка слетело банальное:

— Вы думаете? …Ну может быть…

На землю опустился вечер, надо было возвращаться в нашу деревню под Цюрихом. Ехали молча — каждый думал о своем.



# Кіраўнік Данецкага тэлебачання:

**Пасля захопу сепаратыстамі Данецкага тэлецэнтра ўвесну 2014 года абласное тэлебачанне практычна перастала існаваць. Праз колькі месяцаў пэўная частка супрацоўнікаў падалася на створаны сепаратыстамі тэлеканал «Оплот», які вяшчае на тэрыторыю, падкантрольную двум дзяржавам.**

Падчас гэтых падзей **Віктар ПІДЛІСНЫ**, журналіст і тэлевізійшчык з вялізным стажам, жыў і працаваў у Кіеве. Разам з іншымі журналістамі ён вырашыў, што ўкраінскае тэлебачанне ў Данецкай вобласці мусіць быць адноўленае, і ўзяўся за справу.

Сёння Віктар кіруе Данецкай рэгіянальнай дырэкцыяй НКТУ. Цяпер жыць даводзіцца ў Кіеве, дзе месціцца эфірная апаратная, у Краматорску, дзе знаходзіцца галоўны офіс, і ў Марыупалі. Тэлеканал мае ўласных карэспандэнтаў нават на захопленай сепаратыстамі тэрыторыі.

З Віктарам Підлісным мы сустрэліся падчас маёй нядаўняй паездкі ва Украіну.

***— Чым адрознівалася данецкае тэлебачанне ад іншых украінскіх тэлекампаній да вайны?***

— Да 2014 года Данецкае абласное дзяржаўнае тэлебачанне было ў складзе адной з самых магутных рэгіянальных тэлерадыёкампаній Украіны. Тут быў вялізны штат людзей і дастаткова сучаснай апаратуры. Адзінай хібай лічылася тое, што тэлебачанне вяшчала толькі з аднаго перадатчыка ў Данецку. Бо той жа самы Краматорск, у якім мы зараз базуемся, дзяржаўнага тэлебачання і радыё проста не чуў.

Калі да ўлады прыйшлі сепаратысты, адбыўся фізічны захоп тэлерадыёкампаніі. Журналісты падчас нападу выклікалі міліцыю, але яна аказалася без зброі. Сепаратысты прыехалі на джыпах і пачалі страляць у паветра, прымушаючы ўсіх пакінуць будынак. Нікому не дазволілі забраць асабістыя рэчы, не кажучы ўжо пра якую-кольвек тэхніку.

Пазней на базе дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сепаратысты адкрылі свой першы тэлеканал «Оплот». Журналісты данецкага тэлебачання адрэагавалі на гэта неадназначна: частка адразу падтрымала новую ўладу і пачала працаваць на сепаратыстаў, іншыя проста з’ехалі. На сёння каля 80 з 283 супрацоўнікаў былога данецкага тэлебачання працуюць на сепаратысцкім тэлеканале «Оплот ТВ».

***— Тады Вы і вырашылі стварыць Данецкую тэлерадыёкампанію наноў?***

— У снежні 2014 года Дзяржаўны камітэт па тэлерадыёвяшчанні прыняў рашэнне аб аднаўленні вяшчання. Але гэта было толькі палітычнае рашэнне, практычная ж рэалізацыя вымагала вялікіх высілкаў.

Першапачаткова цэнтрам Данецкай вобласці прызначылі Марыупаль. Гэта вялікі горад з добрымі тэлевізійнымі камунікацыямі, журналісцкімі навучальнымі ўстановамі, таму нам было б прасцей аднаўляць тэлебачанне там. Але пачаўся наступ сепаратыстаў на Марыупаль і вырашана было пераехаць у Краматорск. Краматорск — гэта чыста правінцыйны прамысловы горад, там ёсць некалькі буйных прадпрыемстваў, але духоўнай, творчай інфраструктуры там няма. Таму эфірную апаратную вырашылі арганізаваць у Кіеве, а далей



# Мы пераймалі досвед «Белсата»

Барыс ГАРЭЦКІ

сігнал перадаваць на тэрыторыю Данецкай вобласці і распаўсюджваць яго тут.

Дзякуючы партнёрскай дапамозе нам далі ў карыстанне эфірную апаратную, і 27 лютага наш канал ізноў выйшаў у эфір. Мы запусцілі сігнал на пяць лічбавых перадатчыкаў і два аналагавых у вобласці — у Краснаармейску і Марыупалі. Мы адразу пачалі перадаваць бягучым радком паведамленне, што запрашаем да сябе ўсіх былых супрацоўнікаў данецкага тэлерадыё. І недзе да мая ў нас ужо склалася пэўная каманда.

***— Як выглядае галоўны офіс Данецкага тэлебачання зараз?***

— Наш галоўны офіс сёння знаходзіцца ў Краматорску. Нам вельмі цяжка было знайсці тут хоць які прытулак, бо з-за вайны сюды пераехала вельмі шмат людзей і прадпрыемстваў. Мы адшукалі невялікае памяшканне былой кніжнай крамы, якое і арэндуем.

Эфірная апаратная па-ранейшаму знаходзіцца ў Кіеве. Наш эфір у большасці складаецца з найлепшых матэрыялаў іншых рэгіянальных тэлерадыёкампаній. Гэтым мы вельмі адрозніваемся ад былога данецкага тэлебачання, бо раней вяшчанне тут вялося выключна па-руску і Данбас фактычна быў адрэзаны ад культурнага складніка іншых рэгіёнаў Украіны. Цяпер мы даём магчымасць людзям убачыць не толькі навіны Данецкай вобласці, а наогул імкнёмся паказаць, чым жыве ўся Украіна.

Як вы разумееце, «у спадчыну» мы не атрымалі абсалютна ніякай тэхнікі. Фінансаванне было выдзеленае толькі на заробак супрацоўнікам і распаўсюд сігналу. Усё. Таму людзі працавалі на тым, што мелі самі. Здымалі фотаапаратамі, тэлефонамі. Была адна бытавая камера ў аператара — з такой тэхнікі мы пачалі вяшчанне. Але гэта нас не засмучала, і мы рабілі ўсё магчымае, каб хоць аднекуль атрымаць апаратуру.

У маленькай кніжнай краме немагчыма размясціць усіх супрацоўнікаў, таму мы вырашылі стварыць рэгіянальныя рэдакцыі. Да таго ж адлегласць ад Краматорска да Марыупаля больш за 400 кіламетраў і накіроўваць журналістаў у Марыупаль проста немэтазгодна. Мы пайшлі на супрацоўніцва з усімі мясцовымі тэлевізійшчыкамі, журналістамі, радыйнікамі: Марыупаль, Краснаармейск, Валнаваха, Арцёмаўск, Канстанцінаўка, Славянск… У гэтых гарадах былі створаныя творчыя групы, перад якімі мы ставілі адну задачу — збіраць аператыўную і праўдзівую інфармацыю.

Мы разумелі, што павінны ўсяліць у людзей веру ў дзень сённяшні і дзень заўтрашні. Вайна калісьці скончыцца, а адбудоўваць краіну трэба ўжо зараз. І ўсё гэта мы рабілі з першага дня, незалежна ад таго, было у нас абсталяванне ці не.

***— А сепаратысцкі «Оплот» таксама вяшчае на ўкраінскую тэрыторыю?***

— З Данецкай народнай рэспублікі вядзецца вяшчанне, што закранае тэрыторыю, якая знаходзіцца пад кантролем Украіны. І гэтае вяшчанне ніхто не глушыць. Магчыма таму, што патрэбны вялікія сродкі, каб стварыць такую сістэму. Таму мы працуем ва ўмовах канкурэнцыі меркаванняў, калі так можна казаць пра агрэсіўную прарасійскую прапаганду. На маю думку, дзяржава павінна была б больш жорстка паставіцца да гэтага пытання. Усё ж ідзе вайна…

Для нас вельмі важна аднаўляць у жыхароў Данецкай вобласці нацыянальную памяць, расказваць ім, што гэта старажытны казацкі край. У нас ёсць шмат этнаграфічных, культуралагічных праграм, якія мы бярэм у калег. Хоць ёсць у нас і экстрэмальныя праекты: напрыклад, расказваем, як працуе паліцыя, пра яе будзённыя справы.

***— Якія ТВ-каналы апроч вашага можна глядзець у Данецкай вобласці?***

— Найперш, данецкія. Адтуль транслююцца два сепаратысцкіх каналы і ўласна расійскае тэлебачанне. Яны вяшчаюць на захопленай імі тэрыторыі і заходзяць на нашу, мы вяшчаем тут і заходзім да іх. Мы

нават пакрываем Данецк і раён Ілавайска. Апроч гэтага ў Данецкай вобласці працуе шмат прыватных каналаў. Напрыклад, «Украіна» і «Данбас» алігарха Ахметава. Не ведаю, як ахарактарызаваць кантэнт гэтых каналаў. Я б сказаў, што галоўнае для іх — расказаць пра дабрачыннасць і добрыя справы свайго ўласніка.

Яны працуюць у Данецкай вобласці, як і ўсе цэнтральныя тэлеканалы, для якіх галоўнае — знайсці якія-небудзь «смажаныя» тэмы, зрабіць «гарачанькі» рэпартаж пра забойства, яшчэ нешта. На першы погляд, гэта прыцягвае людзей, робіць карцінку. Часам яны паказваюць нават гераізм украінскіх вайскоўцаў, перадавую.

Але я лічу, каб паказаць гераізм, не абавязкова пастаянна знаходзіцца на перадавой. Напрыклад, мне не так цікава будзе паказаць у эфіры які-небудзь эфектны паліцэйскі захоп, як па-сапраўднаму разабрацца, як працуе паліцыя, якія ёсць праблемы са злачыннасцю, якія шляхі вырашэння гэтай праблемы і г. д.

**Не трэба думаць, што хтосьці з палітыкаў прыйдзе і усё адразу вырашыць. Кожны сам мусіць прыняць для сябе рашэнне, у якой краіне ён хоча жыць. І паводзіць сябе ў адпаведнасці з гэтым рашэннем.**

***— Каналы з тэрыторыі ДНР уплываюць на людзей?***

— Так, уплываюць і сур'ёзна. На тэрыторыі, якую кантралюе Украіна, таксама ёсць людзі, якія сімпатызуюць сепаратыстам. Наогул вельмі цяжка сказаць, колькі адсоткаў насельніцтва сёння тут падтрымлівае сепаратыстаў, а колькі — украінскі бок. Калі напачатку людзі вельмі моцна давяралі інфармацыі украінскіх СМІ, верылі ў блізкія змены, то зараз усё крыху па-іншаму. Шмат каго палохае Захад. Заходняя культура для іх можа быць нават страшнай, а расійская — вельмі блізкай. Таму праца сепаратысцкіх тэлеканалаў і ўплывае на гледачоў. Але сёння ў людзей ужо няма нейкіх вострых прарасійскіх парываў. Людзі ўжо зразумелі, што такое сепаратызм, як жыве зараз Данецк. Што гэта звычайны элементарны бандытызм.

Трэба сказаць, што нашыя журналісты працуюць і на тэрыторыі ДНР. Зразумела, што яны не з'яўляюцца ў кадры, але дасылаюць нам інфармацыю. Імёны гэтых людзей ведаю толькі я.

***— Вернемся да вашага офіса ў Краматорску…***

— Мы па-ранейшаму працуем у былым памяшканні кніжнай крамы. Нам не хапае плошчаў, абсталявання, мэблі. Але нашыя супрацоўнікі вельмі актыўна працуюць, таму што яны хочуць працаваць і навучацца. Будзь якія трэнінгі, курсы, лекцыі адносна павышэння кваліфікацыі, там заўсёды ёсць прадстаўнікі нашага тэлебачання.

Заробкі ў нас вельмі невысокія. Таму мы шукаем любыя магчымасці, каб заахвочваць людзей, прэміраваць, спрыяць іх прафесійнаму росту, атрыманню новых ведаў.

***— Кіеў глядзіць на вас як на асаблівую тэлекампанію ў сістэме дзяржтэлерадыё?***

— Так, наша тэлекампанія пад асаблівым наглядам. Гэта значыць, што нас больш кантралююць і больш за намі сочаць. Але якой-небудзь дадатковай фінансавай дапамогі, на жаль, няма. Хоць я на ўсіх сустрэчах і пасяджэннях заўсёды кажу, што нельга ставіцца да нас, як да звычайнай тэлекампаніі з вялікім штатам і абсталяваннем. Трэба сказаць, што мы вельмі падобныя да спадарожнікавага тэлеканала «Белсат». Мы працуем у падобных складаных умовах, калі канал не мае вялікіх тэрытарыяльных рэдакцый і журналісты павінны знаходзіць уласныя магчымасці для працы.

Адметна, што як толькі мы сталі на ногі, мы адразу ж адправілі найбольш уплывовых людзей нашага тэлеканала ў Варшаву на «Белсат» пераймаць досвед. І зараз нашы журналісты зноў едуць вучыцца ў польскую сталіцу.

***— На Данбасе вельмі шмат розных людзей, ёсць нават злачынцы. Чуў, што нядаўна нехта падкінуў гранату да вашага офіса ў Краматорску. Наколькі страшна працаваць у такіх умовах?***

— Хто баіцца, той сядзіць і баіцца. А хто ведае, што ёсць небяспека, той мае яе на ўвазе і карэктуе свае паводзіны. Я лічу, трэба быць разумным у кожнай сітуацыі, не трэба лезці на ражон. Я, напрыклад, шэсць гадоў працаваў у Чарнобыльскай зоне, здымаў там матэрыялы. Няма ніводнага забруджанага месца там, дзе б я не пабываў. І што, са мной усё нармальна. Мне так казалі сталкеры, якія хадзілі нават у памяшканні пад рэактарам: усе, хто баяўся, ужо памёр. А хто ведаў, дзе можна прыхавацца і як сябе паводзіць, — з тымі ўсё добра.

Можна ісці ў цэнтры Кіева і атрымаць па галаве вазонам, які незнарок выпаў з вакна. Я лічу так: небяспека ёсць паўсюль. Я нават менш баюся за сваіх людзей, калі яны працуюць на лініі фронту, чым калі яны проста ходзяць на вуліцы і робяць якія-небудзь апытанні. Заўсёды можна натыкнуцца на нейкую правакацыю, трапіць у непрыемную сітуацыю. Трэба быць падрыхтаваным да гэтага.

Аднак хачу сказаць, што тутэйшыя людзі адкрытыя для журналістаў і з задавальненнем дзеляцца сваімі меркаваннямі на любыя балючыя тэмы. Людзі гаварыць не баяцца. Баіцца той, хто баіцца суда. Калі ты ваяваў, супрацоўнічаў з сепаратыстамі, а цяпер спрабуеш схавацца ад правасуддзя — вось такія людзі баяцца. Але я ўпэўнены, што раней ці пазней яны будуць пакараныя.

***— Вы верыце, што Данецк будзе вызвалены Украінай?***

— Так. Гэта можа адбыцца заўтра ці праз месяц, а магчыма, праз некалькі гадоў.

***— Наколькі, на ваш погляд, гэта залежыць ад Еўропы ці ЗША?***

— Гэта будзе залежыць ад самой сітуацыі ва Украіне, ад таго, як павядзе сябе ўлада. Наколькі доўга яна будзе працягваць бяздзейнічаць.

***— Ад украінскіх калег я чуў меркаванне, што вайна можа быць нават выгаднай камусьці з палітыкаў у Кіеве. На вайну можна спісваць скрадзеныя грошы, кепскую эканамічную сітуацыю…***

— Так, я згодны з гэтым. Гэта адбываецца, бо Украіна па-ранейшаму жыве ў сістэме, створанай значна раней за сённяшнюю ўладу. Гэта сістэма не выкараненая. І тут няма аднаго вінаватага. Нават самы разумны і моцны прэзідэнт не можа змяніць такую сістэму.

***— А працэс наогул ідзе?***

— Так, ідзе. Галоўная праблема для Украіны сёння — карупцыя і беспакаранасць людзей, якія пры ўладзе і пры грашах. Бо без хабару ты нічога не вырашыш. Прыходзіш да чыноўніка — абавязкова мусіш яму нешта даць. І ўсе ў грамадстве нібыта ведаюць, хто злачынцы, называюць іх, але мы не мелі пакуль ніводнай рэзананснай справы, якая б дайшла да суда. Вось пра гэта трэба казаць. І мы кажам… Трэба адзначыць, што зараз у нас ужо нават пачасціліся выпадкі, калі людзі прыходзяць і бяруць за грудкі таго ці іншага пракурора, які не завёў справу па нейкай карупцыйнай схеме. Людзі пасля Майдану ўжо не будуць цярпець, і таму, я думаю, сітуацыя будзе змяняцца.

Ідзе вайна, але хабары ўсё роўна ёсць. Наш аўтобус на мяжы некалькі месяцаў назад украінцы не прапускалі і адкрыта патрабавалі хабар. То бок, адны вайскоўцы паміраюць на вайне, а іншыя адкрыта вымагаюць грошы…

З гэтым трэба змагацца. Змагацца павінен кожны, хто не хоча з такім сутыкацца. Запісваць такія выпадкі на відэа, публікаваць іх у інтэрнэце, пісаць афіцыйныя заявы ў сілавыя органы. Чым хутчэй людзі самі перастануць даваць хабары і паддавацца на правакацыі злачынцаў, тым хутчэй карупцыя знікне. Таму гэта датычыць кожнага чалавека. Не трэба думаць, што хтосьці з палітыкаў прыйдзе і усё адразу вырашыць. Кожны сам мусіць прыняць для сябе рашэнне, у якой краіне ён хоча жыць. І паводзіць сябе ў адпаведнасці з гэтым рашэннем увесь час, а не толькі тады, калі хочацца пакрытыкаваць іншага.

І я ў гэтай справе вельмі спадзяюся на маладое пакаленне ўкраінцаў. Магчыма, яны большыя максімалісты, але і цярпець старую сістэму яны схільныя менш. Нават на Данбасе.

***— У Краматорску ўвогуле кіеўскую ўладу падтрымліваюць? Ці большасць насельніцтва ўсё ж сімпатызуе сепаратыстам?***

— Адназначна можна сказаць, што Парашэнку на Данбасе не давяраюць. Людзі зараз наогул мала давяраюць палітыкам. Наогул. Таму тут любая ўлада ўспрымаецца варожа. Адны на Данбасе лічаць, што вайна прыйшла з усходу, другія — што з захаду. Але і тыя і другія не любяць Парашэнку. Не як чалавека асабіста, а як асобу, якая сімвалізуе ўладу.

***— То бок, на выбарах у Данецкай вобласці Парашэнка прайграе. А хто выйграе?***

— У нас ва Украіне зараз развялося вельмі шмат розных аналітыкаў, палітолагаў, экспертаў, якія даюць усякія прагнозы. Гэта надта выгадна: нічога не рабіць і даваць прагнозы. Гаварыць пра тое, чаго ты не ведаеш, — будзе дождж ці не? У нас ва Украіне было шмат выпадкаў, калі на выбарах у Вярхоўную Раду ці яшчэ кудысьці перамагалі людзі, якія проста не маглі перамагчы. Але зараз украінскаму народу так абрыдлі тыя твары, якія мы бачым апошнія дзесяцігоддзі, што па-сапраўднаму нешта прагназаваць абсалютна немагчыма. Можа нават адбыцца так, што людзі ўбачаць у палітыцы кагосьці новага і проста з-за гэтага яго падтрымаюць. Магчыма, гэта будзе хтосьці з тых, хто прайшоў вайну. Хтосьці з тых, што пабывалі ў палоне альбо былі параненыя.

Яны яскрава паказалі, што не баяцца ўзяць адказнасць за лёс дзяржавы нават рызыкуючы ўласным жыццём і здароўем. Няхай яны пакуль не вялікія спецыялісты ў палітыцы, але Валенса ў Польшчы таксама не быў палітычным дзеячам. Такіх прыкладаў у гісторыі вельмі шмат. Калі гэтыя мужныя вайскоўцы вырашаць пайсці ў палітыку, то менавіта ім будзе верыць грамадства.

***— А што вы думаеце пра батальён «Азоў»? Часам складаецца ўражанне, што гэта рассаднік неафашыстаў: людзі з наколатай свастыкай на целе…***

— Я думаю, што гэта ўсё несур'ёзна. Пра якую фашысцкую сімволіку можна казаць ва Украіне, якая перажыла такі страшэнны генацыд? Я шмат здымаў матэрыялаў пра ўкраінскіх вайскоўцаў і не магу сказаць, што заўважыў шмат неафашыстаў.

Канешне, як кажуць, у сям'і не без урода. Я не спрачаюся з тым, што ў нас таксама часам здараюцца дзікія выпадкі. І на фронце, і наогул у грамадстве. Гэта бяда і гэта з сорамам трэба вызнаць. Былі і тыя, што кралі. І канешне, людзі адразу казалі, што такіх трэба гнаць з фронту. Былі і тыя, што пілі — таксама трэба гнаць. Рознае бывае, але пра неафашыстаў я б казаў у апошнюю чаргу.

# Падводныя плыні нецікавых выбараў

**Першае, што чуеш, калі гаворка заходзіць пра асвятленне чарговых выбараў: «Дык а пра што пісаць, калі ніякіх выбараў няма?» Я тады згадваю, як яшчэ летась, падчас прэзідэнцкай кампаніі, ладная частка апазіцыйных палітыкаў дзяўбла менавіта тое самае: выбараў няма, ганебна ўдзельнічаць у фарсе, ігнор — наша зброя. Яшчэ і дакаралі журналістаў: нашто пішаце пра гэты танны спектакль, падаяце яго як нешта вартае ўвагі… Давалі дыхту і мне (маўляў, падгульваю рэжыму) за тое, што ў сваіх каментарах даводзіў няслушнасць байкоту (які летась алегарычна назвалі ігнорам).**

## Чаму прыціхлі байкатысты?

Але во цуд: сёлета многія байкатысты-ігнарысты прыкусілі языкі і займаюцца акурат «удзелам у фарсе» — ці то самі вылучаюцца, ці то становяцца даверанымі асобамі вылучэнцаў сваіх партый. Калі летась у апазіцыі панавалі хаос і апатыя, дык сёлета асноўныя апазіцыйныя структуры спрабуюць хоць трохі скаардынаваць намаганні ў межах чарговай кампаніі, ладзяць адмысловыя нарады, абяцаюць выпрацаваць нейкае супольнае пасланне электарату. Пры тым што сёлета выбары значна меншага калібру: не прэзідэнцкія, а толькі парламенцкія. І дэмакратыі ў краіне не дадалося, хіба што душылаўкі трохі паменела. Чаму ж апаненты рэжыму змянілі рыторыку ды падыходы?

Магчыма, хто-ніхто адчуў, што проста ўжо вычарпаны ліміт наступання на граблі. Варта згадаць, што шэраг апазіцыйных сіл, у прыватнасці Аб’яднаная грамадзянская партыя, хрысціянскія дэмакраты, спрабавалі зладзіць і байкот папярэдніх парламенцкіх выбараў 2012 года. Было нават абвешчана, што байкот перамог і яны не адбыліся — засталося, маўляў, шырока праінфармаваць пра гэта электарат ды міжнародную супольнасць. Аднак тыя заявы не перашкодзілі ўладзе сфармаваць чарговую «стэрыльную Палату». Яшчэ болей — у закон увялі забарону заклікаць да байкоту. А Захад у рэшце рэшт увогуле змяніў пугу на пернік у дачыненнях з афіцыйным Мінскам. У ліку іншага і таму, што дэ-факта перастаў успрымаць апазіцыю як значнага гульца на палітычным полі. Толькі тады, мусіць, да каго-кольвек дайшло: трэба меней апеляваць да Захаду, а болей рупіцца самім. Ніхто не паднясе дэмакратыю на сподачку з блакітнай аблямовачкай, калі не будзеш змагацца тут і цяпер, няхай сабе і ў несправядлівых умовах.

Для журналістаў жа мараль тэ наступнае: калі ў краіне няма сапраўдных выбараў (і сапраўды, у плане іх празрыстасці, умоў для сумленнай канкурэнцыі Беларусі да цывілізаваных стандартаў — як да Месяца), гэта не азначае, што ў краіне няма палітыкі. Проста палітычныя працэсы разгортваюцца ў спецыфічных формах. Прычым працэсы дастаткова напружаныя, драматычныя. Нездарма ж Аляксандр Лукашэнка, у якога нібыта ўсё схоплена, штораз цвердзіць вертыкалі і відавочна не толькі дзеля прыгожага слоўца: выбары — важны экзамен. Так што медыям варта бачыць падводныя плыні ды камяні «нецікавых» айчынных выбараў. Калі казаць канкрэтна пра тую кампанію, што ідзе цяпер, то я вылучыў бы змену настрояў насельніцтва (значны рост недаверу да ўладаў на тле эканамічнага крызісу) і міжнародны аспект передвыбарчай гульні рэжыму.

## Запыт на альтэрнатыву

Што да настрояў насельніцтва, то варта ўважліва вывучыць лічбы чэрвеньскага нацыянальнага апытання НІСЭПД. Увогуле тым, хто піша на палітычныя тэмы, і тым болей піша аналітыку, раю



**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ**

шчыльна працаваць з сацыялогіяй. Гэта, у прыватнасці, дапамагае крытычна ставіцца да лозунгаў, намацваць слабыя месцы ў стратэгіях палітыкаў, партый. Лічбы НІСЭПД, дарэчы, заўжды паказвалі, што лозунг байкоту не знаходзіў моцнага водгуку ў масах. Паслявыбарныя апытанні засведчылі, у прыватнасці, што на парламенцкіх выбарах 2008-га і 2012 года галасавала блізу дзвюх трацін выбарцаў. Цяпер жа ў чэрвені высветлілася, што 51,8% рэспандэнтаў ужо гатовыя галасаваць на выбарах, прызначаных на 11 верасня, 19,6% сказалі, што не будуць галасаваць, а 25% — што яшчэ не вырашылі. Практыка паказвае: асноўная частка тых, хто вагаецца, потым далучаецца да большасці. Такім чынам, яўка і гэтым разам будзе, бадай што, на звычайным узроўні. Што разбівае апазіцыйны міф, нібыта народ перастаў хадзіць на выбары.

«Усім вядома, што ў нас не выбары, а фарс» — гэта яшчэ адна памылковая тэза апазіцыйных лідараў. Паводле НІСЭПД, 38,1% беларусаў чакаюць, што вераснёўскія выбары будуць свабоднымі і справядлівымі, а процілеглага меркавання трымаюцца толькі 36,1%. І гэту прапорцыю, дарэчы, не надта мяняюць шматгадовыя намаганні апанентаў Лукашэнкі пераканаць масу, што выбараў у нас няма, а рэжым нелегітымны. Можна наракаць на наіўнасць ці замбаванасць значнай часткі электарату, але факт ёсць факт. Дык можа, варта скіраваць крэатыў і пафас на іншыя лозунгі?

А вось цікавы парытэт: як за кандыдата — прыхільніка Лукашэнкі, так і за кандыдата, што з'яўляецца праціўнікам прэзідэнта, гатовы прагаласаваць па 26,4% (за іншага кандыдата — 24,5%). І ўжо зусім фенаменальным выглядае ўзлёт рэйтынгу апазіцыйных партый за адзін толькі квартал з 11,3 да 21,3% — амаль што ўдвая! Пры тым што нічога гістарычнага за гэты кароткі перыяд партыі не здзейснілі. Аналітыкі тлумачаць феномен абвостраным запытам незадаволенага эканамічным крызісам насельніцтва на альтэрнатыву. Пытанне, аднак, у тым, наколькі апазіцыя скарыстаецца гэтым запытам.

І тут важнае пытанне, пра што будуць гэтыя выбары. Іначай кажучы — з якімі праграмамі ды лозунгамі звернуцца да электарата кандыдаты. На момант, калі пішуцца гэтыя радкі, ўражанне такое, што далёка не ўсе палітычныя сілы выразна сабе ўяўляюць, пра што і як трэба гаварыць іх вылучэнцам. Вуснамі лідараў старой загартоўкі па інерцыі паўтараюцца заклінанні, што вось мы давядзем усяму свету нелегітымнасць гэтых выбараў. Ну дык жа дваццаць гадоў даводзіце — а толку? Рэжым і ў вус не дзьме. І вось тут самы час, каб журналіст падкінуў пытанне: а ці ёсць нейкі болей свежы месэдж?

## Гульні з Захадам

Тут нехта скажа: якія месэджы ні прыдумвай, а прапусціць у Палату толькі сваіх людзей. Ну мо кагосьці з «падстаўной апазіцыі». Дарэчы, іншым разам уражанне такое, што на выкрыванне гэтай «падстаўной апазіцыі» траціцца ці не ўвесь порах «сапраўдных апазіцыянераў» (што тлумачыцца барацьбой за рэсурсы, увагу заходніх гульцоў). Журналістам варта адлюстроўваць гэтую калізію, але недапушчальна самім уцягвацца ў высвятленне, хто сапраўдны змагар, а хто не. Каб зарыентаваць чытача, можна напісаць, хто каму які клеіць ярлык, але не наша справа — займацца наклейваннем ярлыкоў. Адкуль вы ведаеце, хто агент, а хто не? Гэта кантора даведак прэсе не выдае. А калі адкрыюцца архівы спецслужбаў, то, як падказвае досвед шэрагу посткамуністычных краін, нас ці нашых патомкаў можа чакаць багата «открытий чудных», калі той ці іншы палымяны змагар-выкрывальнік сам аказваецца сексотам.

Між тым не факт, што наверсе ўжо на 100% вызначыліся са складам новай Палаты. Бо гэтая кампанія для Лукашэнкі — элемент даволі складанай гульні з Захадам пад дамоклавым мячом Масквы. Прычым і Захад, паставіўшы на лагодны падыход да афіцыйнага Мінска, апынуўся ў двухсэнсоўнай сітуацыі: і ад прынцыпаў адмаўляцца непрыгожа, і не той час, каб перагінаць кій з патрабаваннямі (бо геапалітыка стала важнейшай за дэмакратыю).

У траўні кіраўнік дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю Богдан Здраеўскі, адзначыўшы, што Еўрапарламент цяпер не кантактуе з Палатай прадстаўнікоў, падкрэсліў: «Каб змяніць сітуацыю, неабходна паляпшэнне выбарчага працэсу і месцы для апазіцыі ў парламенце». З іншага боку, амерыканскі дыпламат Скот Роланд (якога пры канцы ягонай місіі у Беларусі прыняў сам прэзідэнт, што само па сабе стала знакам вялікай гульні) на пачатку ліпеня заявіў: нават калі апазіцыянеры не праб'юцца ў парламент, але кампанія засведчыць «пэўны прагрэс» у ажыццяўленні рэкамендацый АБСЕ, то ўжо можна будзе казаць пра «крок наперад».

*Недзяржаўная прэса, дасціпна пішучы пра нашы скрыўленыя выбары, параўноўваючы іх з досведам заходніх дэмакратый, будзе спрыяць і палітычнай адукацыі грамадзян.*

Што мы ў выніку маем? Калі пан Здраеўскі настойвае на месцах для апазіцыі, то гэта можна трактаваць як торг за мандаты, што не надта добра. Могуць даць адчэпнага: вось вам пара памяркоўных апанентаў улады ў парламенце, — але ж усё адно іх прызначаць (прычым тых, каго можна трымаць на кручку). З іншага боку, калі пан Роланд дае зразумець, што Мінск можа атрымаць залік (па выніках выбараў, між іншым, Амерыка будзе вырашаць лёс сваіх санкцый супраць рэжыму) нават без апазіцыі ў новым складзе Палаты, а толькі за кошт праргрэсу ў працэдурах, то беларускія ўлады з радасцю зоймуцца імітацыяй гэтага прагрэсу.

Зрэшты, кіраўніца ЦВК і так яшчэ да пачатку кампаніі разгарнула рэкламу касметычных навацый працэдурнага кшталту, падаючы іх як гіганцкія крокі ў кірунку празрыстасці выбараў. І журналісту, які аналізуе такія заявы, важна назубок ведаць 30 рэкамендацый АБСЕ па выніках леташняй прэзідэнцкай кампаніі. Тады стане відавочна, што ўлады рэалізуюць толькі пару самых бяскрыўдных парад. Калі ж беларускія чыноўнікі ківаюць на Венецыянскую камісію, то трэба ўдакладніць: яна не раіць, але і не забараняе мяняць выбарчае заканадаўства цягам апошняга года перад выбарамі. Так што ў Мінска была магчымасць гэта зрабіць, але не было жадання.

## Не ўлягаць у працэдуру, бачыць сутнасць

Такім чынам, відавочна, што журналісту, які асвятляе выбары, важна добра ведаць матчастку: законы, пастановы Цэнтрвыбаркама, каляндар кампаніі і г. д. Разам з тым досвед асвятлення мінулых электаральных кампаній сведчыць, што нашы медыі надаюць працэдурным пытанням зашмат увагі. Падрабязна пішуць пра этапы, арганізацыйна-тэхнічныя моманты, але мала пра дзейных асоб, іх праграмы, жывыя калізіі. Ці не галоўнымі медыйнымі персонамі становяцца старшыня ды сакратар Цэнтрвыбаркама, мясцовыя чыноўнікі. Журналісты ахвотна тыражуюць палітычныя заявы, ацэнкі, якія дазваляе сабе кіраўніца ЦВК, хоць па ідэі гэта не яе місія. Арганізатары выбараў мусяць быць непрыкметнымі, як рэстаранная абслуга, а не ментарстваваць у дачыненні да палітычных гульцоў.

Зрэшты, для дзяржаўных СМІ фармальна-тэхнічная, пазбаўленая драматызму і абмалёўкі персаналій метода асвятлення выбараў — цалкам асэнсаваная лінія, бо ўлада не зацікаўлена піярыць сваіх апанентаў, рэкламаваць іх лозунгі. Таму ўсё робіцца паводле няхітрай схемы: вось надышоў чарговы этап, вось што пра гэта кажа закон, вось што прадпісвае пастанова ЦВК, а вось што мяркуе яе сакратар Мікалай Лазавік… Аднак жа ў палон падобнай схемы трапляюць і некаторыя недзяржаўныя выданні. Яшчэ адна хіба недзяржаўнай прэсы — падаваць выбарчую кампанію ў спрошчанай, безаблічнай біпалярнай трактоўцы «апазіцыя vs. улада». Паводле маніторынгу БАЖ, болей за 62% плошчы, адведзенай на асвятленне парламенцкай кампаніі 2012 года ў «Народнай волі», з'елі чатыры неперсаніфікаваныя суб'екты — апазіцыя, электарат, ЦВК і ўлада. У тыднёвіку «Наша ніва» ў межах асвятлення той самай кампаніі ўладзе адвялі болей за 47% плошчы.

Маніторынгі БАЖ паказваюць таксама, што асобныя недзяржаўныя выданні непрапарцыйна асвятляюць удзел у выбарах тых ці іншых палітычных сіл: пра нейкія пішуць багата, пра нейкія ж — практычна не згадваюць (хоць тыя таксама варушацца). Зазначу: іншым разам гэта адбываецца проста праз адсутнасць планавання, хаос у рэдакцыйнай працы, але ў пэўных выпадках адразу бачыш, каму сімпатызуе і каго не любіць кіраўніцтва выдання. Такая відавочная ангажаванасць спараджае этычныя пытанні. Роўнааддаленасць ад палітычных гульцоў — найлепшая пазіцыя для журналіста і рэдакцыі. Гульцы ж могуць крыўдзіцца за крытыку, але па вялікім рахунку будуць паважаць за прынцыповасць. І яшчэ парада. Калі палітыкі пачынаюць назаляць, каб іх піярылі (а перад выбарамі ўсе раптам прачынаюцца), райце не цягнуць у друк сумныя праграмныя тэзы (іх мала хто чытае), а ствараць як мага болей інфармацыйных нагод. Хто лепей крэатывіць у рэале, той сам прымагнічвае прэсу.

Увогуле ж я прагназую, што ў Беларусі доўга яшчэ не будзе справядлівых выбараў. Шлях да дэмакратыі можа заняць дзясяткі гадоў. І ён толькі расцягнецца, калі апаненты рэжыму будуць збольшага гуляць ў яго «дэлегітымацыю», а не спрабаваць рэальна пашырыць свае плацдармы тут і цяпер. У прыватнасці, і праз удзел у апрыёры несправядлівых выбарах. Я называю гэта стратэгіяй жабы ў смятане: некалі, можа, і саб'ецца масла. Звыш усяго, варта разумець, што ў нашым грамадстве пакуль што не напрацаваны пласт палітычнай культуры. І дзяржава, яе медыі не стануць шчыраваць у гэтым сэнсе, ім выгадны акурат дэпалітызаваны абывацель. Недзяржаўная ж прэса, дасціпна пішучы пра нашы скрыўленыя выбары, параўноўваючы іх з досведам заходніх дэмакратый, будзе спрыяць і палітычнай адукацыі грамадзян.



**Анатоль САНАЦЕНКА — сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, беларускага ПЭН-цэнтра, ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», галоўны рэдактар «Бабруйскага кур'ера».
Выдаў пяць кніг вершаў па-руску. Як паэт, празаік і драматург публікаваўся ў мясцовым, рэспубліканскім, а таксама расійскім друку.**

**У 41 год стаў пісаць па-беларуску. «Вяртанне на Радзіму» — першая кніга аўтара на беларускай мове, дзе ён піша пра Бацькаўшчыну, жанчыну, каханне, пра асабісты шлях да беларушчыны; тут жа пераклады з Гіёма Апалінэра, дзед і маці якога былі родам з Беларусі...**

# Вяртанне на радзіму

*Замест прадмовы*

Як можна вярнуцца туды, адкуль не з'язджаў? — спытаеце вы.

Можна. Яшчэ як можна. Але трэба растлумачыць…

Усе мы, саракагадовыя і старэйшыя, з'яўляемся ахвярамі Савецкай імперыі, у ментальным хоць бы плане.

Нават тыя, хто ганарліва лічаць сябе свабоднымі людзьмі, маўляў, без «савецкай матрыцы» ў галаве, без савецкага геному ў крыві.

Лічыў і я сябе такім. Між тым мы — ахвяры. І я — таксама.

Жыццёвы прыклад. Упершыню я пачуў беларускую мову толькі ў школе. Мы жылі ў перапоўненым савецкімі войскамі Бабруйску, у цэнтры горада. Вакол — рускамоўныя сем'і вайскоўцаў і да іх узроўню «падцягваліся» гараджане ў першым-другім пакаленні…

Павагі да беларускай мовы не было, дзеці з ваенных сем'яў з дазволу бацькоў і адабрэння адміністрацыі школы адмаўляліся яе вывучаць. Сітуацыя была безнадзейнай… Але ў сёмым-восьмым класах — псіхалагічная проза Васіля Быкава, вершы Максіма Багдановіча, якія я пры адсутнасці кніг паэта перапісваў для сябе ад рукі; «Вераніка», «Александрына», «Спадчына» ВІА «Песняры» — песні, якія пераварочвалі душу і рабілі яе беларускай…

Потым былі іншыя радасныя адкрыцці — ранні Купала, Колас, лірычны Панчанка; пазней — Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Арлоў, Андрэй Хадановіч, Віталь Рыжкоў…

І вось я, рускамоўны, нарэшце вярнуўся на Радзіму сваіх продкаў з іх 700-гадовым родавым гербам «Касцеша». На Радзіму мовы.

У Айчыну. У Беларусь. У Вялікае княства Літоўскае.

## *Вершы. Пераклады.*
## *Зацемкі з кнігі «Вяртанне на Радзіму»*

***

*Калі я размаўляю па-беларуску,*
*У мае жылы ўваходзіць сама Гісторыя,*
*Я раблюся шляхетным — у шляхетным адзенні, —*
*Як таму і трэба быць,*
*Як і наканавана лёсам...*
*Шэсцьсот гадоў альбо сямсот,*
*Усе соймы, гербы, сцягі і штандары,*
*Усе надзеі і летуценні,*
*Уся старадаўняя Літва,*
*Што сёння завецца Беларуссю;*
*Сінія Воды, Грунвальд, Ворша і Ула,*
*Гусоўскі, Скарына, Купала і Багдановіч —*
*Усё гэта праходзіць перада мной і праз мяне*
*І робіцца маёй беларускай душою…*

*Калі я размаўляю па-беларуску…*

***

*Кожная хвіліна — гэта боль ...*
*Як жа гэта так? — дазволь.*
*Хіба гэтага чакалі,*
*Можа дрэнныя квіткі нам далі?..*
*Хочацца сказаць: «Адбой».*

*Моўчкі мы сядзім, як на вакзале.*
*Кожная хвіліна — гэта боль...*

***

*— Быў чалавек — пайшоў да Бога.*
*Што засталося тут? Нічога.*
*— Як гэта так? Пражыў ён многа...*
*Няўжо і сапраўды — нічога?*
*— Так, сапраўды, на жаль, — нічога.*
*Быў чалавек — пайшоў да Бога.*

**ПРЫЗНАННЕ**

*Тое, што трымае мяне ў гэтым свеце, —*
*Гэта твая ўсмешка,*
*Некалькі райскіх слоў, сказаных прыхапкам,*
*Але якія сталі маім гімнам,*
*Твой захоплены погляд,*
*Якім ты зірнула на мяне ў тую ноч.*

*І яшчэ дзве-тры рэчы,*
*Дзве-тры рэчы,*
*Але пра гэта потым,*
*Аб гэтым — потым…*

***

*Правіцелі лезуць на троны,*
*Каб вечна на іх заставацца.*
*Ты моцна ў жанчыну ўлюбёны,*
*Штодзень ад пакут каб хістацца.*

*Усё неяк дваіста ў жыцці,*
*У гэтай цудоўнай краіне…*
*І лёс наш такі — каб ісці*
*Пад маршы new-хунвейбінаў...*

***

*Ты жыў у доме ў нуды,*
*Сілкуючыся ў шкадавання,*
*І зразумеў, што быў дурны:*
*Шукаў не там выратавання.*

*У рэчку двойчы не ўступіць —*
*Пачуццям так няма вяртання…*
*Далей, як жыў, патрэбна жыць,*
*Не думаючы пра расстанне…*
*Жыць, нібы тая трын-трава,*
*І гадаваць сваё мастацтва —*
*Каб не балела галава,*
*Каб не было ў душы вар'яцтва…*

## *ГІЁМ АПАЛІНЭР*

*(пераклады з французскай)*

***

*Я больш не ведаю ці я люблю яе*
*Ці гэта проста мой зімовы грэх*
*У небе дождж я ў паліто ў кашне*
*Не не любоў а толькі рэха*
*Мае каханні гінуць праз мяне*

**АНІ**

*На ўзбярэжжы Тэхаса*
*Па дарозе з порта Мабіл на Галвестон*
*Ёсць вялікі сад які ўвесь у ружах*
*У ім схавалася віла ружам у тон*
*Што сама на ружу падобная дужа*

*Вельмі часта жанчыну адну*
*У гэтым садзе я бачу*
*І калі я міма іду*
*То сустрэцца з ёй поглядам мне*
*Гэта такая ўдача*

*А паколькі яна менанітка*
*Ані ў сэрцы яе ані ў адзенні*
*Без усялякай надзеі*
*Няма гузікаў менавіта*
*Два з іх згубіў невядома дзе я*
*Мы адзінай веры з вамі ледзі*

**КЛАТЫЛЬДА**

*Анемон і Каламбіна*
*Расцвілі ў садзе тваім*
*Там дзе спіць туга нявінна*
*Між любоўю і пагардай*
*Нібы сіні дым*
*Сіні дым*

*Існуюць таксама нашы цені*
*Толькі прыйдзе ноч*
*Прыйдзе ноч*
*Разам з сонцам у адно імгненне*
*Цені знікнуць ты за імі кроч*
*З імі кроч*

*Косы німф азёрных як струмені*
*З іх прыгожых твараў льюцца ўніз*
*льюцца ўніз*
*Ты прайсці павінен у імкненні*
*За прыўкрасным ценем у парадыз*
*У парадыз*

**РАЗВІТАННЕ**

*І сарваў я галінку верасу*
*Бачыш мертвая восень вакол*
*На зямлі мы ўжо не сустрэнемся*
*Вось пах часу пах верасня верасу*
*Я чакаю ў сuквецце вякоў*

*Зацемкі*

# Прадзед майго прадзеда жыў у ВКЛ

Калі браць па бацьку, па ягонай маці, мае прадзеды былі з роду Статкевічаў.

І было іх шасцёра. Шасцёра братоў. Нарадзіліся яны — па маіх падліках — у 60-я гады 19-га стагоддзя (мой родны прадзед — у 1869 г.). І можна з некаторай доляй упэўненасці сказаць, што яны яшчэ заспелі свайго дзеда, а можа, і прадзеда, які падлеткам, мяркую, жыў у Вялікім княстве Літоўскім. І які мог многае ім расказаць аб тым часе…

Гэта значыць, у іх сям'і маглі быць не толькі паданні (як у іншых шляхетных сем'ях), але і жывыя сведчанні пра ВКЛ!..

Статкевічы былі, відавочна, зарыентаваныя не на Пецярбург, не на Усход, а на Захад — Вільню, Варшаву. Відавочна, былі людзьмі заходняй культуры і светапогляду.

Далей мне вядома толькі тое, што яны ўсе (усе шасцёра братоў) з'ехалі ў Царства Польскае. Дзе яшчэ заставаліся сляды, дыханне ВКЛ, Рэчы Паспалітай…

Праз нейкую колькасць гадоў мой прадзед Фёдар Статкевіч вярнуўся назад, да старога бацькі, у якога пад Бабруйскам была свая смалярня; відаць, жыў ён нядрэнна.

Жонка Фёдара Статкевіча памерла, засталася маленькая дачка. З ёй і вярнуўся ў «родавыя» Пабокавічы. Працаваў — спачатку ляснічым, потым механікам на заводзе пад Бабруйскам.

У сорак гадоў зноў ажаніўся. У іх з маладой жонкай Агаф'яй Дрозд нарадзілася яшчэ пацёра дзяцей: два сыны і тры дачкі — мая бабуля і стрыечныя дзядулі і бабулі.

Часы пачыналіся людаедскія, у 24-м годзе дзед Фёдар хацеў паехаць назад — да сваіх братоў, у Польскую Рэспубліку, але межы ўжо былі перакрытыя, з'язджаць не дазвалялі… Мабыць, хутка перапынілася і перапіска. (Лістоў, адрасоў не захавалася, і да гэтага часу невядома, дзе жывуць мае «польскія» сваякі, і колькі іх…)

Але бальшавікі не дабраліся да маіх продкаў. Не паспелі. Яны — спачатку прабабуля Агаф'я, у 1927 годзе, а потым і прадзед Фёдар, у 1934 годзе, — «збеглі» ад іх, памерлі ад сухотаў, што лютавалі тады ў тых краях…

Ад іх, продкаў па лініі Статкевічаў, мне засталося імя па бацьку — Казіміравіч і «ганарлівая кроў», што вядзе мяне па жыцці…

# Карэнішча народа

...І зноў, як і 200 гадоў таму, усходняя імперыя і яе «прыхільнікі» хочуць ментальна, ідэалагічна заняволіць гэты народ. Прывязаць яго да сябе намёртва.

У краіне знішчаецца, душыцца ўсё жывое, усё, што дыхае і развіваецца — грамадзянская супольнасць, незалежныя палітыкі, журналісты, СМІ...

Знішчаюцца ўсе пачынанні, усе ідэі, мэтай якіх — сапраўдная, не на паперы, незалежнасць.

Але ў «іх» нічога не атрымаецца.

Але яны прайграюць.

Немінуча.

Паколькі карэнішча народа праходзіць па ўсёй зямлі беларускай.

Яго — ні выкарчаваць, ні знішчыць.

І мінулыя 200 гадоў — таму доказ...

# Пані Эльжбета,

## першы пасол Польшчы ў Беларусі, пасол беларушчыны ў Польшчы



Іна СТУДЗІНСКАЯ

**У выдавецтве «Інбелкульт» выйшла кніга сябра БАЖ, журналіста «Радыё Свабода» Валера Каліноўскага «Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязні».**

Пані Эльжбета — так называюць у Беларусі выбітнага славіста і беларусазнаўцу, колішнюю кіраўніцу кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і кафедры беларускай літаратуры ўніверсітэта ў Беластоку, першага амбасадара Польшчы ў Беларусі. Прафесар Эльжбета Смулкова вывучае і пашырае беларускую культуру ў Польшчы і ў свеце цягам шасцідзесяці гадоў.

Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Конрад Паўлік на Міжнароднай канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі», у межах якой прайшла прэзентацыя кнігі Валера Каліноўскага, прамовіў:

«Кніга — гэта не толькі біяграфія выбітнай навукоўцы і дыпламата, але і расповед пра складаную польскую гісторыю XX стагоддзя, гісторыю Беларусі. Хіба гэта не парадокс, што народжаная ў Львове дзяўчынка, бацька якой быў забіты НКУС, была сасланая ў Сібір, вяртаецца дадому, а праз гады становіцца адным з найлепшых знаўцаў беларускай мовы ў Польшчы? Нарэшце, яна становіцца вышэйшым прадстаўніком Польскай дзяржавы ў незалежнай Беларусі. Пагадзіцеся, тут не абышлося без пэўнай метафізікі».

### «Мая кніга значна шырэй за біяграфію спадарыні Эльжбеты»

Валер Каліноўскі распавёў, чаму зацікавіўся лёсам даследчыцы.

***— Спадар Валер, чаму Вас зацікавіла менавіта асоба пані Эльжбеты Смулковай? У Беларусі ж працавала нямала надзвычай цікавых дыпламатаў з розных краін, яркіх, адданых.***

— Эльжбета Смулкова не толькі амбасадар, хоць у Беларусі яе збольшага памятаюць менавіта як амбасадара. Напэўна, яна — лепшы амбасадар Польшчы, якія тут былі, найбольш прыязная да Беларусі і адданая справе.



*Эльжбета Смулкова*
*і Валер Каліноўскі*

Эльжбета Смулкова (Баранова) нарадзілася ў 1931 годзе ў Львове ў сям'і настаўніцы і інжынера-лесніка, намесніка кіраўніка Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Львове. У 1940 годзе бацьку арыштавалі, а маці з двума малымі дзецьмі выслалі ў Сібір. Маці Яніна Баранова да самай смерці ў 1991 годзе так нічога і не даведалася пра лёс свайго мужа. Толькі ў 1995 годзе дочкам Казімежа Барана Эльжбеце і Марылі ўдалося знайсці бацькава прозвішча ў апублікаваным «Украінскім спісе» катыньскіх ахвяраў.

Цягам пяці гадоў у сібірскім пасёлку Усць-Сільга (Навасібірская вобласць, Каргасокскі раён) маці Эльжбеты Яніна Баранова цяжка працавала, каб пракарміць дачок, вучыла іх пісаць па-польску, знаходзіла пазітыў і добрых людзей у найскладанейшых варунках. У 1946 годзе яна з дзецьмі вярнулася ў Польшчу і зрабіла ўсё, каб дочкі атрымалі добрую адукацыю.

У 1951 годзе Эльжбета скончыла гімназію. Яна не збіралася стаць мовазнаўцай — з дзяцінства марыла стаць лекарам. Падала дакументы ў медыцынскі інстытут, але туды прымалі толькі чальцоў польскага камсамолу — Звязу польскай моладзі. Давялося падаць дакументы ў Торуньскі ўніверсітэт імя Мікалая Каперніка на польскую філалогію. Там Эльбжета захапілася беларусістыкай, якая стала справай яе жыцця. У Торуньскім універсітэце яна абараніла дыпломную магістрскую працу на тэму польска-беларускіх моўных сувязяў на прыкладзе мовы вясковых жыхароў усходняй Беласточчыны. Потым літаратурную версію беларускай мовы вывучала на аддзяленні славістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, штодзень прыязджаючы на заняткі ў сталіцу з Торуні. Амаль ўся навуковая кар'ера пані Эльжбеты была звязаная з кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

У 1991 годзе Эльжбету Смулкову прызначылі першым Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь.

«Мне было дадзена працаваць ў Беларусі ў пераломную эпоху, у 1991–1995 гадах. Гэта быў вельмі цікавы, творчы час інтэнсіўнай змены ладу ў Польшчы, распаду Савецкага Саюза і ўзнікнення новай беларускай дзяржаўнасці. Час наладжвання двухбаковых польска-беларускіх дыпламатычных дачыненняў на новым, партнёрскім грунце», — піша Эльжбета Смулкова ў сваёй кнізе «Памежжа моў. Памежжа культур».

24 чэрвеня Эльжбеце Смулковай споўнілася 85 гадоў. І прэзентацыя кнігі журналіста «Радыё Свабода» Валера Каліноўскага «Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні» была прымеркаваная да яе дня нараджэння. У Варшаўскім унівэрсітэце прэзентацыя кнігі пра пані Смулкову прайшла 27 чэрвеня.

Але пані Эльжбета яшчэ 60 гадоў займаецца беларусістыкай — з канца 1950-х гадоў яна супрацоўнічала з беларускімі мовазнаўцамі, культуролагамі, этнографамі, хадзіла па вёсках, пісала навуковыя працы пра націск у беларускай мове, пра землеробчую лексіку. Можна сказаць, глыбока даследавала Беларусь знізу, а потым, быўшы ўжо амбасадарам, глядзела зверху, як Беларусь выглядае.

***— А адкуль у маладой дзяўчыны з Польшчы прачнулася такая любоў да Беларусі? Можа, у яе ёсць беларускія карані?***

— Не, беларускіх каранёў ў яе няма. І ў Беларусі яна ні разу не была да моманту навуковай зацікаўленасці. Любоў да нашай краіны, відаць, узнікла пазней. Спачатку ў пані Эльжбеты быў чыста навуковы інтарэс, звязаны з тым, што Галіна Турска, прафесар Торуньскага ўніверсітэта, дзе навучалася Эльжбета пасля вяртання з Сібіры і заканчэння гімназіі, паходзіла з Віленшчыны, вывучала віленскія гаворкі яшчэ да вайны, калі працавала ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні. Прафесар Турска працягвала вывучаць беларускія гаворкі на Беласточчыне і накіравала туды маладую даследчыцу, якая стала дактаранткай, — Эльжбету Смулкову. Пазней Турска парэкамендавала Смулкову як даследчыцу ў Варшаўскі ўніверсітэт, дзе рыхтавалася вялікая каманда для працы над беластоцкімі гаворкамі. Тады Смулкова паехала ў Варшаву да Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай, выбітнай польскай беларусазнаўцы, стваральніцы польскай беларусістыкі, якая заснавала кафедру беларусістыкі ў Варшаўскім універсітэце і аддзяленне беларусістыкі ў Інстытуце славістыкі. Прафесар Абрэмбска-Яблоньска асноўныя свае даследчыя працы прысвяціла Беларусі, яна — укладальніца беларуска-польскага слоўніка, яна выдала «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча ў перакладзе Браніслава Тарашкевіча. І яна ўвесь час падштурхоўвала



пані Эльжбету, дапамагала ёй ісці беларускай дарогай. Такім чынам, дзве настаўніцы — Галіна Турска і Антаніна Абрэмбска-Яблоньска — і падштурхнулі Смулкову да беларушчыны.

***— Біяграфічны жанр надзвычай цяжкі: тут патрэбна дакладнасць, акуратнасць, праверка фактаў, звестак і ў той жа час неабходна знайсці цікавосткі, незвычайныя моманты, павароты ў жыцці героя — каб было цікава чытачу. Як удалося спалучыць сухія біяграфічныя звесткі і чалавечы, эмацыйны расповед пра лёс сваёй гераіні?***

— У гэтым і палягае задача аўтара такой кнігі, якая па сутнасці і ёсць біяграфія пані Эльжбеты, — знайсці залатую сярэдзіну. Але мая кніга значна шырэй за біяграфію спадарыні Эльжбеты. Яна ўключае і гісторыю беларуска-польскіх адносін прынамсі XX стагоддзя і нават яшчэ больш ранняга перыяду. Як развіваліся стасункі паміж Беларуссю і Польшчай у навуковай, культурнай сферах, а потым і ў дыпламатыі, як працягваюцца. Мы гэта ўсё аналізуем. Задача, якую я сабе паставіў, — распавесці праз адну асобу гісторыю беларуска-польскіх адносінаў. Што ў іх было добрага (а добрага было вельмі шмат), што пагоршылася пасля 1994–1995 гадоў і якія ёсць спадзевы на тое, што гэтыя адносіны адновяцца ў поўнай шырыні нашай прыязні, якая гістарычна была паміж палякамі і беларусамі. Вось такая мая была ідэя і задача. Канечне, рэалізаваць яе было складана. Але калі ў галаве ёсць разуменне, канцэпцыя, як гэта зрабіць, тады гэта ўжо лёгка.

Што да жанру, мяркую, гэта дакументальная кніга, кніга-біяграфія, якая базуецца ў значнай ступені на інтэрв'ю, але я пайшоў далей. Гэты жанр па-ангельску называецца *extended interview*, па-польску — *wywiad rzeka*. Я з пані Эльжбэтай размаўляў 8 дзён, у мяне ёсць больш за 50 гадзін гуказапісу нашых размоваў. Але ўжо шмат дэталяў яна не памятае, штосьці забылася, а чагосьці, магчыма, і не ведала. Асабліва пра Сібір, пра Нарымскі край — яна ж была дзіцём. Няшмат памятала яна і пра нашых беларусазнаўцаў, беларускіх філолагаў, з якімі працавала ў маладосці. Так што аснова кнігі пачалася з інтэрв'ю, а потым былі даследаванні, праца ў архівах, пошук і спраўджванне фактаў, лічбаў, людзей, якіх я ўзгадваю. Таму была вялікая дакументальная праца, прычым выкладзеная ў журналісцкім, публіцыстычным стылі, каб гэта было і цікава, і дакладна, і навукова-папулярна.

***— А пані Эльжбета цікавая суразмоўца? І наколькі яна адкрытая і шчырая — у дыпламатаў жа шмат сакрэтаў, якія яны не могуць раскрываць і пасля завяршэння кар'еры.***

— Суразмоўца яна надзвычай цікавая. Яна шмат чаго ведае. Чалавек жыве ў свабодным свеце цікавым інтэлектуальным жыццём, яна да апошняга часу працуе з навуковымі праектамі, звязанымі з Беларуссю. Але шмат дыпламатычных таямніц яна мне не выдала, бо дагэтуль выконвае свой абавязак трымаць таямніцы (у адрозненне ад многіх іншых былых дыпламатаў), хаця шмат цікавага распавяла і пра перыяд свайго амбасадарства. Тым больш той перыяд быў складаны і цікавы. Асабліва 1991–1992 гады, калі ўсё было выдатна, калі квітнелі нашыя адносіны. А ў 1994–1995 гадах адносіны пачалі псавацца, была нават высылка дыпламатаў. Мы пра гэта гаворым шчыра. Камусьці з беларускіх уладаў гэта не спадабаецца. Але гэта рэальнае жыццё, і аб'ектыўны чалавек не можа гэтага не бачыць.

Дарэчы, хачу падкрэсліць яшчэ адну акалічнасць. Мы з выбітнай даследчыцай, выкладчыцай БДУ Ірынай Багдановіч рыхтавалі прэзентацыю кнігі «Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязні» у рамках Міжнароднай канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі». І планавалі правесці яе ў першы дзень канферэнцыі на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Прычым кніга на той час ужо была ў свабодным доступе ў інтэрнэце. І да апошняга моманту, я думаю, ніхто не чытаў кнігу. І толькі






за пару гадзін да запланаванай імпрэзы да нас дайшла інфармацыя: «ёсць меркаванне, што прэзентацыю не варта праводзіць у першы дзень у сценах БДУ, дзе будуць афіцыйныя выступы дэкана, прарэктара». Маўляў, мэтазгодней перанесці яе на больш позні тэрмін. Так што нейкія рэчы з кнігі камусьці не спадабаліся. Але я — свабодны журналіст, пішу як думаю, а пані Эльжбета — свабодны навуковец, інтэлектуал і не абмяжоўвае свае думкі тым «а што могуць падумаць у адміністрацыі ці дзесьці яшчэ». Дзякуй Богу, скандалу не было, правялі прэзентацыю на другі дзень канферэнцыі у Музеі Ваньковіча.

## Пытанне, што не спадабалася чыноўнікам

Эпіграфам да главы «Рамантычны перыяд у дачыненнях Мінску і Варшавы» Валер Каліноўскі ўзяў фрагмент з кнігі Смулковай «Памежжа моваў. Памежжа культур».

«Цяпер, з адлегласці часу, бачу, як шчасліва склалася, што першым амбасадарам РП у Рэспубліцы Беларусь стала мовазнаўца і шматгадовая даследчыца гэтай краіны. Жартам можна было б сказаць, што ў афіцыйных і неафіцыйных размовах, як у Польшчы, так і ў Беларусі, мне дадавала адвагі пачуццё, што "за мной стаіць народ", — гэта значыць Беларусь, пазнаная знізу, ад каранёў — як вёска, так і горад, многія беларускія сем'і, якія я ведала асабіста. Падчас амбасадарскай працы я вучылася новаму абліччу Беларусі, таму, што над тым "народам" як вялікая шапка: яна часам пасуе, часам ціснe, а часам зусім неадпаведная».

Ёсць у кнізе і глава «Разварот» — пра пагаршэнне беларуска-польскіх дачыненняў. Першыя сімптомы пахаладання Эльжбета Смулкова заўважыла яшчэ напрыканцы 1993 — пачатку 1994 года. А ў верасні 1995 года Эльжбета Смулкова сышла з пасады амбасадара.

***— Пра ўсё гэта падрабязна напісана ў кнізе. А вось што тычыцца будучыні Беларусі — як яна яе бачыць?***

— У маёй кнізе ёсць цэлы раздзел — «Беларусь — Польшча: сёння і заўтра». Я зрабіў яго у жанры інтэрв'ю. Там ёсць адно маё пытанне: ці падтрымае Польшча беларускае адраджэнне, беларускую дзяржаўнасць, калі нейкім чынам адыйдзе ад улады Аляксандр Лукашэнка. І пані Эльжбета выказвае свой прагноз і сваё бачанне сітуацыі — вельмі цвяроза, яна ўжо не мае такога рамантызму, але яна верыць у беларушчыну, у шчаслівы лёс беларускай мовы. Пані Смулкова рэальна ацэньвае кепскі стан беларускай мовы ў грамадстве, але мае вялікі спадзеў, што беларускую мову не напаткае лёс латыні ці палабскай мовы, бо ніякіх падставаў унутрымоўных для цяперашняга плачэўнага стану беларускай мовы няма. Ёсць толькі вонкавыя чыннікі — спачатку русіфікацыя Савецкага Саюза, цяпер — русіфікацыя ўласна беларуская.

Ёсць у мяне пытанне, як будзе дапамагаць Польшча ў выпадку змены аўтарытарнага рэжыма. І я ведаю дакладна, што яно не спадабалася некаторым чыноўнікам.

А пані Эльжбета адказала наступнае: «Усё залежыць ад таго, як беларусы будуць арганізоўвацца, наколькі змены грамадскага, палітычнага і эканамічнага жыцця пойдуць у кірунку рэфрмаў, праведзеных на Захадзе і ў нас. Наколькі новая ўлада пойдзе гэтым шляхам. Я лічу, што Польшча зацікаўленая ў тым, каб яе суседзі, як Літва, якая ўжо сябра Еўрасаюзу, а таксама Беларусь і Украіна, прэтэндавалі на далучэнне да еўрапейскай супольнасці… Так што ад самой краіны, ад самой дзяржавы Беларусі перадусім залежыць, якую яна для сябе абярэ дарогу — еўрапейскую альбо еўраазіяцкую».

***— А пасля таго як яна сышла з пасады і з'ехала ў Варшаву, яна працягвала беларускую справу?***

— Так, Эльжбета Смулкова стварыла курс беларушчыны — не толькі пра мову, а значна шырэйшы.



*Фота з прэзентацыі ў Мінску прадстаўлена В. Каліноўскім*

І потым увесь час яна заставалася паслом беларушчыны ў Польшчы, увесь час падтрымлівала праекты, звязаныя з беларускай культурай, навукай, даследаваннямі. Яна была кансультантам і ў МЗС Польшчы па беларускіх пытаннях, у фундацыі дапамогі палякам на ўсходзе, у Варшаўскім універсітэце, у Акадэміі навук — усюды была запатрабаваная да апошняга часу.

І прэзентацыя маёй кнігі, якая прайшла ў Варшаве, паказала, наколькі яе шануюць. Была поўная зала, прысутнічалі намеснік міністра замежных спраў Польшчы Марэк Зюлкоўскі, дырэктар Інстытута славістыкі, дэкан Інстытута паланістыкі — гэта сапраўды сведчыць, што яе шануюць і ў Польшчы, і ў Беларусі.

***— Хто Вам дапамагаў у напісанні гэтай кнігі?***

— Дапамагала мне вельмі моцна Анна Энгелькінг, былая дырэктарка Інстытуту славістыкі Польскай акадэміі навук, адна з любімых вучаніц пані Эльжбеты. Звязваўся я з кафедрамі беларусістыкі Варшаўскага і Беластоцкага ўніверсітэтаў. Пісаў запыты нават у Службу бяспекі Украіны, калі мне былі патрэбныя матэрыялы па ўкраінскім Катыньскім спісе, што тычыліся бацькі пані Смулковай Казімежа Барана, закатаванага Саветамі ў 1940 годзе. Адказы атрымліваў аператыўна. Шмат гаварыў з тагачасным міністрам замежных спраў Беларусі Пятром Краўчанкам. З беларускімі мовазнаўцамі давялося шмат кантактаваць. І фактычна ў гэтай кнізе я называю выбітную пляяду беларускіх мовазнаўцаў, з якімі пані Эльжбета працавала ў 1950–1960-х гадах, якіх ужо няма. Але я звязваўся з людзьмі, якія іх памятаюць.

***— 85 гадоў — даволі пачэсны ўзрост. Як пані Эльжбеце ўдалося захаваць такую памяць, веды, розум ды шыкоўна выглядаць у такім сталым узросце?***

— Інтэлектуальныя праца спрыяе даўгалеццю. Гэта мне казала і сама пані Эльжбета. Тое самае мне казаў і наш знакаміты зямляк прафэсар Барыс Кіт, калі яму споўнілася 100 гадоў. Тое самае кажа і 90-гадовы Янка Запруднік. Калі чалавек разумова працуе, піша, вывучае мовы, нешта ўдасканальвае, тады і арганізм яго трымаецца.

## Прызнанне аўтара

Чаму я ўзяўся за напісанне кнігі пра Эльжбету Смулкову? Ёсць дзве прычыны. Першая — гэта ўласны досвед супрацы з польскімі навукоўцамі, з польскімі СМІ, з якімі я маю шчыльныя кантакты ўжо цягам 25 гадоў. Калі я вучыўся ў аспірантуры, разам з польскімі этнографамі хадзілі ў супольныя экспэдыцыі, я бываў на навуковых канферэнцыях у Польшчы, выступаў з дакладамі. Сустракаўся і з пані Эльжбетай. Гэта маё мінулае, маё недарэалізаванае навуковае жыццё. І багаж, які я меў, патрабаваў рэалізацыі. І ў выніку — атрымалася кніга.

І другая прычына — мне хацелася чымсьці аддзячыць краіне, якая моцна дапамагла маёй сям'і, майму сыну, якога выключылі ў Мінску з лінгвістычнага ўніверсітэта за палітычную дзейнасць у «Моладзі БНФ», цягалі па ваенкаматах, каб забраць служыць. Гэта быў драматычны перыяд у нашай сям'і. Антон паехаў вучыцца ва Уроцлаў па праграме Каліноўскага. І я хацеў адказаць дабром на дабро.

І яшчэ адно меркаванне, чаму такая кніжка патрэбна менавіта ў гэты складаны час, калі адбываецца вайна ва Украіне, калі Беларусь зноў знаходзіцца пад пагрозай страты незалежнасці. У гэты момант прынамсі эліты павінны зразумець, што не трэба спадзявацца на добрага дзядзьку ў Маскве, трэба паварочваць свой погляд і на Захад, і на Поўдзень, знаходзіць сваіх спрадвечных саюзнікаў, а Польшча з'яўляецца спрадвечным саюзнікам Беларусі.

Я хачу падкрэсліць гэтай кнігай, што Польшча — наш вельмі блізкі і прыязны сябар, вельмі мабільная рынкавая краіна, дэмакратычная, адкрытая свету, і нам ёсць сэнс з ёй супрацоўнічаць.

Чаму Украіна так плённа супрацоўнічае зараз з Польшчай? Таму што Польша — першы адвакат Украіны ў Еўрасаюзе. Спадзяюся, Польшча будзе адвакатам і новай Беларусі, калі наша краіна будзе імкнуцца інтэгравацца ў Еўрапейскі саюз.



# Пра адно сяброўства

## *Да 80-годдзя Генадзя Бураўкіна*



Сяргей ШАПРАН

**28 жніўня Генадзю Бураўкіну было б 80.**

Згадваючы цяпер Генадзя Мікалаевіча, найперш хочацца сказаць не пра значнасць яго як паэта, як дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, а пра яго чалавечыя якасці і перадусім — пра яго вернасць сяброўству. Зрэшты, і сам Бураўкін, гаворачы ў апошнія свае дні пра ўчынкі, якімі ён можа з поўным правам ганарыцца, назваў тады абарону Васіля Быкава, сяброўства з якім звязвала яго чатыры дзесяцігоддзі. Пра гэтую гісторыю Генадзь Мікалаевіч распавядаў мне неаднойчы, але ўпершыню я пачуў яе яшчэ ў 1999 годзе — ён гаварыў тады:

— …Але назаўжды звяла нас гісторыя абароны Васіля Быкава пасля публікацыі ў газеце «Советская Белоруссия» — публікацыі вельмі грубай, рэзкай і несправядлівай. Гэта было ў 1966 годзе. Быкаў абвінавачваўся ў тым, што няправільна, вельмі вузка паказвае вайну, што прыніжае гераізм савецкіх людзей і піша толькі пра трагічны бок вайны, у той час як трэба паказваць гераічны. Тады існавала такое паняцце, як «акопная праўда»: гэта, маўляў, не ўся праўда пра вайну, сапраўдная ж праўда — недзе там, у генеральскіх штабах. Баявыя генералы лічылі, што Быкаў недаацэньвае іх подзвіг. Як быццам Быкаў, які паказваў подзвіг радавых, мог тым самым пакрыўдзіць генералаў!.. І вось разам з Анатолем Вярцінскім мы напісалі ліст у Цэнтральны камітэт кампартыі Беларусі і пайшлі з ім да нашых літаратурных свяцілаў. На нашае шчасце, яго падпісалі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Іван Мележ, Янка Брыль — класікі, якіх мы вывучалі ў школе. Для іх гэта быў сапраўды мужны грамадзянскі ўчынак, бо той факт, што ліст падпісалі людзі аднаго літаратурнага пакалення з Васілём Быкавым, быў зразумелы: мы ўсе былі дзецьмі XX з’езда… Менавіта гэтая гісторыя канчаткова і звязала нас з Васілём. І, спадзяюся, ніштo ўжо да канца нашага зямнога жыцця не разлучыць нас…

Зрэшты, і сам Васіль Быкаў не аднойчы пасля прыгадваў з удзячнасцю сваіх

маладзейшых сяброў Генадзя Бураўкіна і Анатоля Вярцінскага — распавядаў пра гэтую гісторыю на старонках мемуарнай «Доўгай дарогі дадому» і часам раней — у нарысе «Сціплае слова вітання», які быў напісаны да 60-годдзя Бураўкіна: «Мне ж з тае нагоды хочацца сказаць пра, можа, самую важную чалавечую якасць Генадзя Мікалаевіча, зрэшты, і не надта частую для нашага часу — абвостранае пачуццё таварыскасці, прыязнасці, пра сяброўскую цеплыню ягонай душы, якою ён надзелены шчодра і якую рэалізуе ў жыцці поўнаю мерай.

Менавіта ў памянёных якасцях Генадзя аўтар гэтых радкоў пераканаўся даўно, можа, на самым пачатку нашага з ім знаёмства і пасля — на працягу немалых гадоў няпростых і нялёгкіх, але заўжды самых таварыскіх, самых цёплых адносін.

Думаю, варта нагадаць трывіяльную жыццёвую ісціну: людзі падабаюць удачлівых, тых, на каго абрынаецца поспех ці любоў начальства. Тады той раптам са здзіўленнем заўважае, колькі ў яго адданых сяброў і як яны самаадданa любяць яго. А калі наадварот? Калі чалавека спасцігае бяда? Вось тады ад яго і адварочваюцца і сябры, і таварышы, а то і крэўнікі. На жаль, такое здараецца…

Менавіта ў такі час адбылося наша з Генадзем знаёмства. Некаторыя з сяброў і равеснікаў перасталі вітацца, іншыя пачалі выступаць супроць — у друку і асабліва ў прысутнасці начальства. І толькі нямногія, азіраючыся, калі побач не было староннiх, палахліва паціскалі руку і вымаўлялі словы спачування. Генадзь жа не казаў нічога. Абураны беспадстаўнымі нападкамі на аўтара крамольнай весці, ён разам са сваім сябрам Анатолем Вярцінскім напісаў ліст у ЦК і паехаў па кватэрах пісьменнікаў збіраць подпісы. Па тым часе тое было няпроста: добраахвотныя заступнікі справядлівасці наслухаліся рознага — ад глыбакадумных абгрунтаванняў немагчымасці заступіцца да пагрозаў наступствамі. Рызыкавалі яны таксама ўласнай партыйнай рэпутацыяй і, безумоўна, — кар'ерай, па сутнасці, на самым яе пачатку: абодва тады былі зусім маладыя. Зрэшты, руплівуцы партыйнасці і бальшавіцкага законапаслухмянства, мабыць, мелі рацыю — тое адгукнулася на кар'еры абодвух, не ў той год, дык пазней. Як даўно вядома, добрыя ўчынкі не застаюцца непакаранымі.

Але справа не ў выніках заступніцтва, якое практычна ці мела сэнс, — для пакрыўджанага болей важна было звычайнае пачуццё спачування, чалавечай спагады, якія грэюць болей, чым міласэрны прысуд начальства, якога тады якраз і не дачакаліся. І для мяне, і для маіх заступнікаў, якіх у Саюзе пісьменнікаў набралася аж за 60 асобаў, то быў учынак сумлення, хрысціянскай міласэрнасці. Ён не даў памерці надзеі і пабудзіў светлую спадзяванку, без якой чалавек — не чалавек. Тым болей не творца і наўрад ці грамадзянін».

Зрэшты, варта было б прыгадаць яшчэ адну гісторыю, якая адбылася напрыканцы жыцця Быкава: вярнуўшыся ў маі 2003-га з Прагі, Васіль Уладзіміравіч даведаўся, што ягоная жонка Ірына Міхайлаўна пазбаўлена мінскай прапіскі. Для Быкавых гэта сталася вялікай, невырашальнай праблемай. Па дапамогу Васіль Уладзіміравіч звярнуўся да даўняга свайго сябра — Генадзь Мікалаевіч прыгадваў падчас адной з нашых з ім сустрэч у 2004-м:

— Яшчэ перад ад'ездам Васіля з Прагі мяне праз аднаго майго сябра папрасіў аб сустрэчы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Рамдракавіч Латыпаў. Размова павінна была ісці пра Быкава…

Мы сустрэліся ў адным рэстаранчыку. Латыпаў пацікавіўся станам здароўя Васіля Уладзіміравіча, ці не патрэбна яму якая-небудзь дапамога… Я тады збіраўся ехаць у Прагу праведаць Васіля. Заадно Аляксандр Старыкевіч, рэдактар газеты «Салідарнасць», папрасіў мяне зрабіць інтэрв'ю з Быкавым, які ў той час катэгарычна адмаўляўся ад любых размоў з журналістамі. Патэлефанаваўшы Васілю, я сказаў, што хачу прыехаць (ён узрадаваўся гэтаму), і выказаў надзею, што ён не адмовіць у інтэрв'ю, самым кароценькім. Васіль адказаў: «Прыязджай, тады паглядзім…»

Размова гэтая адбылася не больш чым за тыдзень да яго прыезду ў Мінск. Я пачаў збірацца. Аднак Васіль, відаць, ужо тады вырашыў, што вернецца, але нічога пра гэта мне не сказаў. І якраз у той час мне і перадалі просьбу Латыпава. Я так і сказаў Уралу Рамдракавічу, што збіраюся ў Прагу, што Васілю была зроблена аперацыя, вельмі няпростая, што ў яго метастазы ў печані… Латыпаў спытаў, чым можна дапамагчы — лекамі ці яшчэ як. Я адказаў, што, наколькі мне вядома, ніякіх праблем з лекамі ў яго няма, а які ягоны стан і што ўвогуле Васіль збіраецца рабіць, змагу адказаць, калі вярнуся…

Варта адзначыць, што Латыпаў у размове неаднаразова падкрэсліваў, што вельмі паважае Васіля Быкава і гаворыць толькі ад свайго імя…

Вось такая адбылася гаворка, працягнуць якую мы дамовіліся пасля таго, як вярнуся з Прагі.

І раптам нечакана для мяне — не ведаю, наколькі нечакана для іншых — Васіль прыляцеў у Мінск. Мы



1973 г. Андрэй Макаёнак, Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін.
Фота Уладзіміра Крука

— Я ж вам сказаў, што гэта мая асабістая ініцыятыва.

— Калі сапраўды гэта не дойдзе да Лукашэнкі, тады я раскажу пра адзін клопат, які вельмі непакоіць Васіля. Гэта — прапіска Ірыны Міхайлаўны. Наколькі разумею, для вас гэта не праблема.

— Абсалютна… А яшчэ?

— А больш ніякіх просьбаў.

— Можа, з лекамі?

— Не. Гэта адзінае, пра што сказаў мне Васіль.

— Добра. Дапамагу.

Праўда, потым я папрасіў яшчэ

сустрэліся, і ўжо пры першай сустрэчы, калі былі сам-насам, я сказаў Васілю:

— У мяне была сустрэча з Латыпавым, які пытаўся пра цябе і прапаноўваў дапамогу, калі яна патрэбна.

Васіль адказаў на гэта:

— Ты ведаеш мае адносіны да нашых кіраўнікоў.

— Так. Але я лічу Латыпава дастаткова інтэлігентным чалавекам. Тым больш што ўвесь час ён падкрэсліваў, што гэта яго асабістая ініцыятыва. Таму, калі што-небудзь трэба, ты скажы. Я сустрэнуся з Латыпавым яшчэ раз.

— Ніякай дапамогі мне не трэба. Ёсць толькі адна праблема — з прапіскай Ірыны…

Справа была ў тым, што Ірына Міхайлаўна ў нашым консульстве ў Празе абмяняла стары пашпарт на новы. Аднак калі яна пайшла ў ЖЭС, каб паставіць штамп аб мінскай прапісцы, ёй сказалі, што зрабіць гэтага не змогуць, бо ў яе — штамп аб сталым пражыванні ў Чэхіі.

— Тут, Генадзь, у мяне праблема… — сказаў Васіль. — У выпадку чаго… (ён сумна і шматзначна змоўк) для мяне гэта будзе трагедыя. Таму што, калі не будзе штампа аб мінскай прапісцы, Ірыну выкінуць, а кватэру забярэ дзяржава. Гэта мяне турбуе… А ўсё астатняе неістотна…

Пасля гэтага я звязаўся з Латыпавым і сказаў, што ёсць патрэба сустрэцца. Ён прыехаў да мяне на дачу. Я папярэдзіў:

— Васіль не хоча быць камусьці абавязаным. Тым больш, каб гэта было звязана з Лукашэнкам. Ён памятае, як Аляксандр Рыгоравіч сказаў калісьці, што на пахаванне Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі нават чаравікі купляў. Васіль баіцца, каб такое не было заяўлена пасля яго смерці.

На гэта Латыпаў заўважыў:

пра адно, ужо па ўласнай ініцыятыве:

— На паліграфкамбінаце ляжыць набраны першы том збору твораў Быкава. Каб выпусціць яго, спатрэбіцца ўсяго некалькі дзён. Дайце, калі ласка, каманду надрукаваць хоць бы дзясятак асобнікаў, каб Васіль патрымаў у руках гэты том…

Латыпаў адказаў:

— Генадзь Мікалаевіч, пастараюся і гэта зрабіць…

Што тычыцца першай просьбы, Урал Рамдракавіч аператыўна дапамог: Ірыну Міхайлаўну хутка прапісалі — усё было зроблена літаральна за некалькі гадзін. І Васіль сказаў мне: «Дзякуй, Генадзь». Думаю, добра, што ён паспеў зняць з душы гэты клопат — гэта адбылося яшчэ да Бараўлян.

Што ж тычыцца другой маёй просьбы, то пазней я даведаўся: званок выдаўцам быў, аднак затым — ужо не ведаю, якія сілы ўмяшаліся, — быў яшчэ адзін званок: не друкаваць. Гэты званок стаў вырашальным…

…У мяне няма падстаў сцвярджаць, што Латыпаў распавёў пра нашыя размовы Лукашэнку. Але і выключаць гэтага таксама, мабыць, не варта…

Распавядаючы гэтую гісторыю, Генадзь Мікалаевіч дадаваў: «Я даў Латыпаву слова, што пра гэтыя нашы размовы нікому не раскажу, і ён мне даў такое слова, — зазначыў Генадзь Мікалаевіч. — Але пасля Лукашэнка, выступаючы, сказаў, што зрабіў для Быкава ўсё, аб чым ён прасіў. Я не маю пакуль падстаў сцвярджаць, што Латыпаў расказаў Лукашэнку пра нашы размовы. Тым больш што Аляксандр Рыгоравіч такі чалавек — для яго зманіць — нічога не значыць». Зрэшты, ні тады, ні пасля не пытаўся ў Бураўкіна, ці з'явілася ў яго нейкая дадатковая інфармацыя па гэтай справе, аднак ніколі потым не чуў ад Генадзя Мікалаевіча і слова шкадавання пра тое, што ён распавёў мне пра гэта…

# Семнадцать мгновений судьбы Иосифа Калюты

**Почти шестьдесят лет в профессии! Иосиф Калюта не раз менял редакции, должности, но всегда оставался верен правилу: если пишешь материал, то так, чтобы не стыдно было подписать его своей фамилией. А по-человечески в Иосифе Александровиче подкупает то, что и в солидном возрасте в нем сохранилось некое мушкетерство по отношению к друзьям и напрочь отсутствует всезнайство. Иосиф Калюта — носитель колоссального журналистского опыта и житейской мудрости, которыми он и поделился с нашими читателями.**

***— Давайте начнем издалека и вспомним Ваш первый журналистский опыт.***

— Простите за нескромность, но первый опыт был… редакторский. В Межеречской средней школе Зельвенского района выпускали газету «Пятерочка», и я, ученик 8 класса, был редактором. Мне повезло с учительницей русского языка — Любовь Гавриловну мы между собой называли Седая Бабушка. Она была такая классическая бабушка в пенсне, которая опекала каждого ученика, влюбила нас всех в литературу. С ее подачи я отправлял стихи в районную газету, некоторые даже были напечатаны.

Перед выпускными экзаменами Любовь Гавриловна вызвала меня и сказала, что на днях едет в Гродно и хотела бы познакомить меня с поэтом Михасем Васильком. Новость приятная: в Гродно я к тому времени еще ни разу не был, а еще и знакомство с настоящим поэтом!

В редакции «Гродненской правды» разыскали Михася Василька. Из разговора учительницы и поэта я понял, что до войны они рядом жили, вместе учились, слушаю, мотаю на ус их воспоминания. Потом в кабинет заходит



Иосиф Калюта (стоит справа) в кругу коллег. Фото Юрия Иванова


Оксана ЯНОВСКАЯ

худощавый мужчина лет 35 на вид, в руках у него газетная полоса. С Михасем Иосифовичем он внес правки и ушел. Василек говорит: «Это наш стиль-редактор и переводчик, фронтовик Быков Василь, пишет интересные рассказы. Запомни это имя, скоро о нем будут говорить как о большом писателе».

После окончания школы в 1959 году меня пригласили в районную газету Зельвы «Путь к коммунизму». Два года осваивал газетное ремесло. Но потом в связи с укрупнением районов газету закрыли. В 19 лет оказался безработным. Через пару месяцев пригласили в редакцию Гродненского областного радио. Пришлось осваивать новую работу. С «репортером» через плечо исколесил всю область. В одной из командировок встретился с интересным парнем — секретарем сельского комитета комсомола Лидского производственного управления Иваном Ярмощуком. Была у нас радийная беседа, потом сочинил очерк «Вечная командировка» и отправил в «Знамя юности». Напечатали. А через пару дней позвонили и предложили приехать в Минск познакомиться. Заглянул. Обернулось это тем, что зачислили в штат собкором «ЗЮ» по Гродненской области. Было это осенью 1963 года.

В феврале 1964 года Никита Хрущев провел очередной пленум ЦК по сельскому хозяйству. Партию, в том числе комсомол, мобилизовали на подъем сельского хозяйства. И вот сидим мы в редакции и думаем, как реализовать призывы и лозунги. Я придумал идею учредить паспорт молодого хлебороба и вручать его молодым труженикам села. Редактор Виталий Чанин сказал: «Придумал, флаг тебе в руки —действуй». Так я стал в одном лице пропагандистом и организатором. В типографии напечатал пару сотен книжечек — паспортов молодого хлебороба. На Слонимщине в колхозе «Слава труду» провели праздник посвящения в хлеборобы. На то время этот колхоз вполне соответствовал нынешним агрогородкам, у них был даже свой дом отдыха. Праздник провели, ветераны вручили молодым людям паспорта, настроение у всех приподнятое. Наверное, нынешние 20-летние вряд ли поймут, что это за радость. Но в те годы у сельских жителей еще не было паспортов граждан СССР, и тот наш самодельный паспорт был хоть каким-то удостоверением личности молодых людей.

***— Часто Вам приходилось выступать в роли организатора?***

— Да вот буквально через два года, в 1966 году, ко Дню Победы на окраине города Лиды решили по инициативе «Знамени юности» насыпать Курган Бессмертия на местах боев. Аналог был — в 1924 году в Новогрудке насыпали курган Адама Мицкевича. Я читал, как тогда все происходило.

Написал сценарий предстоящего мероприятия. В горкоме партии одобрили мою идею заложить у подножия Кургана капсулу с «Письмом в Будущее». Текст письма, разумеется, тоже я сочинил. Потом обо всем этом рассказал в репортаже «Аисты над святыней».

***— Композиторы, например, говорят, что есть у них хорошие песни, а есть суперхиты. И если хороших песен может быт сотня, то суперхитов — единицы. Если применить их терминологию к журналистике, что бы Вы причислили к суперхитам?***

— Думаю, это публикации, которые восстановили доброе имя, историческую справедливость. У меня есть такие. Основателем Слонимского краеведческого музея был Иосиф Стабровский, именно он передал музею экспонаты из личной коллекции. Было это в 1929 году. По совести, нужно бы музею присвоить имя основателя, но не тут-то было: Стабровский — офицер царской армии. Этот факт перевешивал его службу в Красной армии. Ряд моих публикаций на протяжении нескольких лет, беседы с чиновниками все же дали результат: музею присвоили имя Иосифа Стабровского.

Еще одну историю могу припомнить: директор Сморгонского завода оптического станкостроения Сергей Пелих съездил в заграничную командировку. События разворачивались в 1993 году, тогда наш директорат еще не шибко-то за рубеж ездил. Так вот, на Пелиха посыпались обвинения, мол, за границу отправился, валюту транжирит. Никто не подумал, что он поехал в командировку решать производственные задачи, налаживать сбыт продукции. Вопрос уже стоял и об увольнении директора. Я съездил в Сморгонь, поговорил с ним, изучил заводские документы и написал все как есть. А в активе у директора — заграничные контракты, налажен сбыт продукции, у заводчан хорошие заработки. Сергей Александрович, наверное, первый в Беларуси ввел «телефон доверия» на предприятии. В общем, публикация остановила травлю толкового директора. Он тогда еще, помнится, шутил:

«Уволят, открою кооператив, стану миллионером». Да, миллионерами мы все вскоре стали…

Кстати, после той публикации о Пелихе и его загранкомандировке было продолжение. Я написал материал, но для журнала «Беларусь» он был неформат. Главред Александр Шабалин и говорит мне: «Давай предложим "Народной газете"». Тогда там у руля был Иосиф Середич, и тираж «НГ» составлял полмиллиона! Очерк вышел, а через две недели звонит мне домой Середич, говорит, что через 15 минут зайдет. Пришел. Достает из пакета бутылку коньяка, мол, нужно поговорить. Договорились до того, что, уходя, Иосиф Павлович предъявил ультиматум: если хочешь, чтобы подавал тебе при встрече руку, дай слово, что перейдешь работать в «Народную газету»!

Ситуация: Шабалин — друг, а Середич — известный редактор. Как уйти к одному, не обидев другого? Но мы все втроем смогли договориться.

***— Вы перешли в «Народную газету». Как там работалось?***

— Да. Перешел и там сходу схлопотал выговор. Правда, в тот же день его отменили. А сюжет разворачивался, как в боевике. Только обошлось без стрельбы. Дело было так. Визит Бориса Ельцина в Минск. Готовимся к этому событию и мы в редакции. Иосиф Павлович на планерке попросил легких на подъем репортеров добывать эксклюзивную информацию «вокруг да около визита президента России», если понадобится — даже из-под земли.

Я напросился пойти на пресс-конференцию, хотя у меня была «домашняя заготовка», но о ней я промолчал на планерке. А имелась договоренность с моим знакомым архитектором Юрием Сердюковым — однокурсником Бориса Николаевича и Наины Иосифовны по Уральскому политехническому. Он по секрету поведал мне о телефонном звонке из Москвы. Звонила Наина Ельцина: «Здравствуй, Юра! Узнаешь однокурсницу? Через два дня мы с Борисом Николаевичем прилетаем в Минск. Собери, пожалуйста, наших политехов, их в Минске пятеро. Пригласите жен». И назвала время и место встречи. Правда, оговорила условие: встреча будет в узком кругу, неформальная, без прессы…

На пресс-конференции я занял очередь у микрофона, приготовился задать вопрос «Народной газеты», но тут неожиданно объявили, что пресс-конференция закончена, время вышло… Задать вопрос я не успел.

Наутро на планерке Середич спрашивает: «Где Калюта? Ждем от него информацию о пресс-конференции». Как мне потом рассказали, вопрос повис в воздухе, и главред, не обнаружив меня, изрек: «Что ж, коли так, выговор моему тезке обеспечен».

Появиться на планерке я не мог. Как раз в это же самое время мы беседовали в проектном институте с Юрием Сердюковым. Была, конечно, мысль сообщить в редакцию, объяснить, где я, что да как. Но мобильников в ту пору еще и в помине не было, да и городского телефона под рукой не оказалось. Чтобы никто не мешал нашему разговору, мы приютились в закутке одной из комнат с какими-то приборами.

Мой собеседник рассказал о неформальной, почти семейной встрече первой леди Наины Ельциной с однокурсниками, о бесконечных воспоминаниях. Благодарю Юрия Ивановича за интересную информацию и … Он все понял, говорит: пишите, как все было, за точность ручаюсь. Официальный визит закончился, можно рассказать о неформальном.

Возвращаюсь домой, сажусь за машинку, включаю диктофон… Часам к одиннадцати я уже был в редакции. Иду к Середичу с готовым блиц-интервью. Иосиф Павлович быстро прочитал текст, выждал паузу и написал резолюцию: «В номер» На первую полосу». При этом уточнил: «Кто-нибудь кроме тебя о встрече Наины Ельциной с однокурсниками напишет?» Отвечаю: «Нет, конечно. Это эксклюзив». Середич говорит: «Значит, вставим парочку фитилей конкурентам из других газет? Что ж, молодец!»

Под вечер утренний приказ о выговоре дезавуировали, появился другой: за блиц интервью в рубрику «Не для печати» мне объявлена благодарность с выдачей денежной премии. Утром стулья, вечером деньги — такая получилась история.

***— Да, дружба дружбой, а табачок врозь…***

— Можно и так сказать… Иосиф Павлович — редактор, с которым много пройдено. Он человек амбициозный, энергичный, может завестись с полоборота, но обид не держит, умеет подобрать кадры, создает им условия для творческой работы. Середич — боец, который идет до конца, отстаивает свою позицию и не прогибается под власть. Насколько я могу судить, и в журналистских кругах, и во властных структурах есть люди, которые недолюбливают его, но нет таких, кто бы его не уважал.

***— Часто Вас приглашали на работу маститые редактора. Трудно работать с такими?***

— Мне везло на редакторов! Все они были люди своего времени. Николай Леонов — первый мой



Одно из первых интервью

— Семья, работы было много, командировки без конца, учиться пришлось заочно, в Гродно и в Минском пединституте окончил исторический факультет.

***— О, в советское время, оказывается, могли простить отсутствие диплома журфака при условии, что человек состоялся в профессии. Вопрос у меня почему-то формулируется именно так: удалось ли увильнуть от вступления в партию?***

— Удачно сформулировали. Не удалось. Вообще-то мой отец был против вступления в комсомол, но тут уж его уговорили: как это десятиклассник будет не как все, без значка ВЛКСМ.

С партией вот как вышло. Когда пригласили в «Сельскую газету», Владимир Матвеев даже не спросил, состою ли я партии, хотя тогда это был вопрос номер один. Ему срочно нужен был пишущий человек, вот я и пришелся ко двору. В партию пришлось вступить, работая в комсомольской газете. Считаю, что вступил в ее ряды не ради карьеры. Было так. Приказом по редакции «ЗЮ» меня назначили завотделом комсомольской жизни и членом редколлегии. Потом спохватились: на этой должности может быть только член партии. А я беспартийный и честное беспартийное: вступать желания у меня не было. Я отнекивался, мол, не созрел идеологически, могу не оправдать высокого доверия. Это, конечно, выглядело мальчишеством. Мне-то что: я тогда вынашивал идею попросить вернуть меня на должность корреспондента. А каково редактору? Подставить Николая Соколова я не мог.

Меня начали готовить ко вступлению в партию. Но тут возникла новая преграда. В то время существовала разнарядка: представителей рабочего класса и тружеников села могли принять в партию в любое время — было бы желание. А для творческой интеллигенции, в том числе журналистов, очередь на вступление была такая же, как в Мавзолей. Не знаю, кто и в какой высокой инстанции замолвил слово, но меня на бюро Советского райкома партии приняли в экстренном порядке. Как я расставался с партией Ленина, история не менее любопытная.

***— Расскажите…***

— Был понедельник, 19 августа 1991 года. С утра задержался дома — уж не помню, по какой причине,

редактор в Зельвенской районке, затем — Виталий Чанин и Николай Соколов в «Знамени юности», Владимир Матвеев в «Сельской газете», Андрей Макаёнок в журнале «Неман», Владимир Величко в журнале «Коммунист Белоруссии», Иосиф Середич и Николай Галко в «Народной газете», Александр Шабалин — в журнале «Беларусь». О Шабалине скажу отдельно. Стаж нашей дружбы вобрал полвека (!), полагаю, это дает мне право называть его Сашей. А знаете, с другом, если он главред, работать сложно. На планерках, на заседаниях редколлегии приходится держать дистанцию, лавировать, обращаться на «вы» и по имени-отчеству. В остальном же, понятное дело, мы были на «ты».

***— Но шила в мешке не утаишь — коллеги-то явно знали о дружбе.***

— Конечно! Знали о нашей с Сашей дружбе, знали, что мы «дружим домами», как говорили герои фильма «Москва слезам не верит». А от этого — двойная моральная ответственность: тебе надо выполнять все поручения главного не хуже, а лучше, чем это делают другие, писать, естественно, тоже на высоком уровне, вести себя в коллективе так, чтобы ни в чем не подводить, не подставлять друга-редактора. И спорили мы с Сашей часто — не без того, ибо в споре истина и рождается.

***— Но Вы и сами были главным редактором творческого объединения «Летопись» на «Беларусьфильме», затем руководили журналом «Олимп» и еженедельником «Друг пенсионера». Как Вы думаете, везло ли сотрудникам тех редакций, когда Вы были у руля?***

— Судить не мне. Атмосфера, скажу честно, была творческая. И взаимопонимание тоже — это точно. А конфликты? Конфликты могли только присниться (улыбается).

***— Иосиф Александрович, что-то мы упустили студенческие годы…***

